№ 10 (152). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 25.V.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 10 (152). Вільня, 25 Мая 1939 г. Год XI



## ШТО ВЫВОЗІЦЦА З НАШАГА КРАЮ ЗАГРАНІЦУ

Гаворачы аб справах эканамічных нашага краю, асабліва з людзьмі вёскі, паўстае перад усім пытаньне: ці край наш можа быць самавыстарчальны й ці маем што вывозіць заграніцу? Пытаньне, бязумоўна, вельмі важнае, амаль аснаўное для нашага адраджэнскага руху. Адказаць на яго падробна й ясна ў цяперашніх абставінах у прэсе бадай-што немагчыма... У кожным выпадку трэба ведаць, што няма, здаецца, на сьвеце ні аднаго краю, ні аднаго гаспадарства, якое магло-б зачыніць свае граніцы й мець да жыцьця ўсё, што толькі трэба. Не здабудуцца на гэта нават такія багатыя й вялізарныя дзяржавы, як Злуч. Штаты Паўночнае Амэрыкі й СССР, бо й яны шмат розных тавараў мусяць прывозіць з заграніцы. Ясна тады, што можа быць гутарка толькі аб самавыстарчальнасьці адноснай, рэлятыўнай, г. зн. ці край, аб якім будзем гаварыць, можа вытварыць гэтульки прадуктаў, каб заспакоіць патрэбы сваіх жыхароў і даць заграніцы тавараў прынамсі на такую суму, на якую выпісвае з заграніцы. Калі так, дык ёсьць ён самавыстарчальным у пададзеным сэнсе, а калі экспорт (вываз) можа быць большым, чымся імпорт (прывоз тавараў з іншых зямель, з заграніцы), тады край мае вялікія магчымасьці для разьвіцьця дабрабыту. Пры гэтым, бязумоўна, трэба сабе выбіць з галавы паняцьце, ці лепш мо' сказаць — пустую гутарку, што кожны, хто ўладаў, напр. беларускімі землямі, толькі да іх дакладаў, быццам дзеля таго, што яны надта бедныя. Гэта ёсьць проста пустая байка для малых дзяцей. Бо трэба ведаць, што ня было й няма такіх дабрадзеяў, каторыя давалі-б каму-небудзь сваё багацтва толькі дзеля свайго добрага сэрца й... літасьці над беднякамі.

Цяпер пяройдзем да агляду экспарту й імпорту з тых зямель, дзе жывуць Беларусы. Вось-жа Пётра Крэчэўскі — Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, б. кіраўнік Гандлёвае Беларускае Палаты, на аснове расейскіх статыстычных дадзеных у працы сваей «Беларусь у мінулым і сучасным» (Зборнік «Замежная Беларусь», Прага 1926 г.), сьцьвярджае, што да вайны праз адну Юрбургскую мытную станцыю вывозілася заграніцу розных тавараў з Беларусі на суму 4,270,000 рублёў. Апрача таго што-год адпраўлялася з Беларусі лесу на суму 60 мільёнаў рублёў. Увоз тавараў у Беларусь што-год сягаў сумы 50 міл. руб. Прывозіліся перад усім такія тавары: соль, селядцы, газа, жалеза, каменны вугаль і інш. Жылося перад вайной у сэнсе эканамічным Беларусам, ня глядзячы на агульнае ўпасьледжаньне, нязгорш — хлеба хапала, ды было й да хлеба. Такім чынам з прыточаных дадзеных бачым, што экспорт з 15-ці мільённай надвыжкай пакрываў імпорт. Самым вывазам лесу пакрываўся ўвесь прывоз тых тавараў, каторых у Беларусі ня было. Але мусім сабе ўсьведаміць, што цяпер у нашым краю гэтулькі лесу няма, як было да вайны, бо шмат яго вывезьлі ня толькі Расейцы, але й Немцы. Шмат так-жа вывезена ад нас лесу й пасьля вайны. Шчасьце толькі ў тым, што, як кажа Аркадзь Смоліч у «Геаграфіі Беларусі» (Вільня, 1922 г.), „дзякуючы нашаму вільготнаму й мяккому клімату лес у нас вельмі хутка й моцна расьце, шмат лепей, чым у нашых суседзяў. У Расеі, агулам бяручы, што год прырастала дрэвяное масы на дзесяціну 5,5 куб. мэтраў, каля Варшавы, ды наагул на Захадзе — толькі каля 4 куб. мэтр., а ў Беларусі 6,5 куб. мэтраў“. І гэта тады, калі лес ня меў у нас належнае апекі, дагляду. Пры гэткім прыросьце, ды пры 10 мільёнах дзесяцінаў лесу на землях заселеных Беларусамі— кажа далей А. Смоліч — даход ад лясное гаспадаркі бадай ці ня мог-бы зраўнаважыць увесь гадавы гаспадарственны бюджэт гэтых зямель.

Як прадстаўляецца пасьля вайны экспорт і імпорт з нашага краю, точных дадзеных няма. Але пару год таму давялося чытаць у прэсе, што Масква вывезла розных тавараў з БССР за адзін год на некальні дзесяткаў мільёнаў больш, чым было туды ўвезена. А знача — не дакладае яна, а зарабляе сваей «апекай» над Беларусамі, так як і пры цары.

З абшару Прамыслова-Гандлёвае Палаты ў Вільні, паводле справаздачы гэтае Палаты за 1937 г., вывожаныя былі гэткія тавары: жыта вывезена 35,410 тоннаў, валакна льнянога — 11,194,7 т., на суму 13,393,500 зл., тканінаў суконных, поўядбабных, хустак, адзежы й інш. тэкстыльных тавараў—пераважна беластоцкага вырабу, — на 13,068,000 зл., вялікая колькасьць была вывезена бэконаў, шынак, кансэрваў, мяса сьвінога й цялячага, дзерава, бульбы, але колькасьць і вартасьць гэтага не падана, жывых коняў рабочых і для войска вывезена 3,821 штука, гусей, індыкоў, курэй — больш як на 50,000 зл.,

яёк — 1,224 q, скураных рукавічак на 578,542 зл., гуркоў — 142,000 пушак, грыбоў — на 463,442 зл., лекарскіх зёлак — на 522,054 зл., шэрсьці—398,558 клг. (цана 100 клг. шэрсьці ад 60 да 150 зл.), шчаціны — на 115,000 зл., ракоў — на 233,207 зл.; вывозілі так-жа заграніцу дрожджы, цэмант, фрукты й шмат іншых тавараў. Тавары гэтыя йшлі ў розныя гаспадарствы, між іншым у: Нямеччыну, Англію, Францыю, Чэхаславацчыну, Бэльгію, Галяндыю, Швэцыю, Фінляндыю, Латвію, Італію, ды далей у Амэрыку, Афрыку, Азію — бадай у увесь сьвет. І гэта тады, калі, як сьцьвярджае гэнае-ж справаздача Гандл.-Прамысл. Палаты, існуюць розныя перашкоды для экспорту, калі няма належнае прапаганды нашых тавараў, ані належна сарганізаванага экспорту. Але ўжо ўсё-ж-такі ёсьць паважны пачатак і ў гэтым кірунку. Тыя-ж лічбы, якія тут паданы, а таксама папярэднія артыкулы на тэмы эканамічныя друкаваныя на гэтым месцы, думаю, што пераканаюць хіба найбольшага недаверка, што землі, на якіх жывуць Беларусы, ёсьць самавыстарчальнымі й што маем мы на экспорт вялікія багацьці, каторыя з надвыжкай пакрыюць прывожаныя да нас тавары. **Я. Н.**

* * *

*Час настаў трывожны,*
*час такі нэрвовы,*
*а на сіняй пожні*
*бродзіць чар вясновы.*

*Салаўям — ня чорту*
*песьняй піць каханьне*
*у сэрцы-ж, самым гордым,*
*многа хваляваньня.*

*Па дарожках, тропах,*
*паміж траў і росаў,*
*залацістым снопам*
*бродзіць сонца босым.*

*Шолах каля хатаў*
*шэпчыцца ахвоча,*
*хлопцам і дзяўчатам*
*зацьвітаюць вочы.*

*Песьняй весялухай*
*пераклiч вясёлы*
*ходзіць завірухай*
*каля вёсак-сёлаў*

*На палёх араты*
*і сяйбіт з сяўнёю*
*жменяй зерны мерыць,*
*думна і заўзята.*

*Ну і як паверыць*
*між жыцьця вясною,*
*што цяпер над сьветам*
*сьмерць стаіць з касою?*

*М. Машара*

# 125-тыя ўгодкі нарадзінаў Тараса Шэўчэнкі

Украінцы сёлета ўрачыста сьвяткавалі 125-тыя ўгодкі нарадзінаў свайго найвялікшага паэта Тараса Шэўчэнкі. Юбілей гэты сьвяткавалі так-жа й іншыя народы, бо слава Шэўчэнкі й ягоныя творы разыйшліся па ўсім сьвеце.

Жыцьцё Тараса Шэўчэнкі, ягоныя цярпеньні — гэта проста адны жудасьці. Сын беднага украінскага прыгоннага селяніна, з малых дзён сірата, бяз маткі, а пасьля й бяз бацькі, праследаваны мачыхай, бяз долі, але з вялікай ахвотай да кніжкі, да сьвятла, першага вучыцеля меў у асобе дзячка п'яніцы, каторы больш над ім зьдзекаваўся, як вучыў. Доля прымусіла Тараса быць нават пастухом і лёкаем багача-абшарніка Энгельгардта, з якім ён езьдзіў па розных местах. На шчасьце, будучага ў Петраградзе з панам, Тараса пазнаў украінскі студэнт Сашэнка, каторы ўбачыўшы ў Тарасе вялікія здольнасьці да малярства й літаратурнае творчасьці ўцягнуў ягоў культурнае асяродзьдзе, каторае заплаціўшы Энгельгардту 2500 рублёў выкупіла Шэўчэнку з панскае няволі. Агулам Шэўчэнка мала жыў вольным, бо зараз за ягоныя творы пачаўся

# Азаліі сьняць аб Каўказе

*Прысьвячаю Колі Засіму*

Стэп за Случай захваляваўся чорнымі ўзгоркамі, якія зьнябывалай жуткасьцю сунуцца ўсё бліжэй і бліжэй. Раз разьбягаюцца ў бакі й твораць між сабою праход, зноў зсоўваюцца ў гурбу й падаюцца ўперад. На апошняй яснаце неба выразна адціналоцца галовы коняў і людзей. Ужо з-за хмараў пылу чуваць дзікія крыкі стаі Татараў. З першаю вячэрняю зоркаю зьявіліся ў вёсцы. Перапалоханыя жыхары кідаюць дабытак і ўцякаюць у яры і схоўкі ў полі. Разьяраная дзікая гурба пачынае свой танец. Першая хата бухнула полымем чырвонага вагню й хмараю чорнага сьлямянага й хваёвага дыму. Карагоды іскраў узьнімаюцца ў начную вышыню й хочуць даляцець да бліскучых зораў, якія пабялелі ад зарава пажару. Ужо не адна хароміна гарыць а трэцяя й пятая, у міг уся вёска бухае вагнём, дымам і іскрамі. Плач несхаваўшыхся жыхараў і радасныя песьні й танцы барбараў дапаўняюць жудасны малюнак. Шэра-сталёвае неба, утканае мігаючымі зоркамі, моршчыцца й мяняецца спалоханаю гладзьдзю; круглы месяц ад спалоху зьбялеў і хаваецца за хмару.

Устае туманны васеньні дзень. Бледнае сонца нясьмела кідае свой пагляд на пачарнелыя камлі дубоў і разваленыя, яшчэ недагарэўшыя зрубы будынінаў. Замест пабеленых сьценаў хаті вішнёвых садочкаў перад люстранымі шыбамі вокнаў клубіцца хмары чорна-шэрага дыму. Дзенідзе язык вагню падпаўзае да смальнога брыўна і бяжыць па ім чырвонаю йстужкаю, сыкае й трашчыць. Валавянае неба засоўваецца заслонаю дажджавых хмараў і гразіць нябеснаю вадою. За хвіліну сонца хаваецца ў высіні акіяну й агромныя кроплі бруднае цечы падаюць на вуглі пажарышча. Трэск заліванага вагню й шопат недагарэлых бярвеньняў хаваецца ў хмарах пары й папялішчы. Мокнуць ў лужынах без пары пажаўцелыя лісты.

Дзіч гуляе й любуецца сваім вынікам працы. Нацягвае мацней лук, папраўляе затрутыя стрэлы ў каўчане й зьбіраецца на новую гульню.

Зноў з першаю зоркаю лунае зарава пажару суседняе вёскі, зноў клубіцца дым і вагонь, зноў лятуць хмарамі залатыя іскры з плачам, енкам і радаснымі песьнямі.

Неба ня можа глядзець на жахі зьнішчэньня, на чорныя абгарэлыя камлі, якія ў месячную ноч сьвецяць распаленымі вачыма й выцягіваюць худыя пакрыўленыя рукі ў гару; зьбірае свае апошнія сілы й цярушыць лебядзіны пух у гразь. Павольна лятуць сьняжынкі адна за другою, фыркаюць у тумане познага васеньняга дня й кладуцца лёганька на сьвежыя раны. Прыліпаюць шчыльна да апечаных ствалаў, западаюць у разваленыя гарачыя цэглы й ірдзяцца бруднымі

жорсткі царскі прасьлед. Жыў Шэўчэнка нядоўга, бо ўсяго 47 г. (памёр 10.III 1861 г.) і з гэтых 47 гадоў — 24 гады пражыў прыгонным, 10 г. — у азіяцкіх крэпасьцях, 5 г. — пад пільным наглядам паліцыі й толькі 9 г. (ад 1838 да 1847) — умоўна вольным.

Творчасьць Шэўчэнкі, ягоны „Кабзар" (зборнік твораў) адзначаецца вялікім патрыятызмам да Украіны й свайго народу, глыбокай лірыкай, вострымі пратэстамі супроць несправядлівасьці, зьдзеку й паняверкі. Творы Шэўчэнкі для Украінцаў сталіся нацыянальным эвангельлем. Дацаняюць іх і іншыя народы, і дасюль пераклады твораў Шэўчэнкі паявіліся ўжо ў 19-ці языках. Між іншым і ў языку беларускім. Бо, трэба пры тым ведаць, што пад уплывам Шэўчэнкі тварылі многія беларускія паэты. Дзеля таго й Беларусы аддаюць Тарасу Шэўчэнку найвялікшую чэсьць!

Я—к.

*Тарас Шэўчэнка*

## Запавет

*Як памру, дык пахавайце*
*Мяне на магіле,*
*Сярод сьцяпу шырокага,*
*Ў Украіне мілай;*
*Каб разлогі неабсяжны*
*І Дняпро і стромы*
*Відаць было, было чуці*
*Як рычыць бяз стомы.*

*Панясе як з Украіны*
*У сіняе мора*
*Кроў варожую, тады я*
*Разлогі і горы —*
*Ўсё пакіну і палечу*
*Да самага Бога*
*Маліціся. А да тога —*
*Я ня знаю Бога!*

*Пахавайце і ўставайце,*
*Кайданы парвіце*
*І варожай злой крывёю*
*Волю акрапіце!*
*І мяне ў сям'і вялікай,*
*Ў сям'і вольнай, новай*
*Не забудзьце ўспамянуць*
*Ня злым, ціхім словам.*

25 сьнежня 1845 у Пераяславе

*Пераклаў Сяргей Хмара*

## Hien. St. Raštikis i jahonyja adviedziny ŭ Polščy

9, 10 i 11 maja sioleta, zaprošany maršałam E. Rydz-Śmihłym, haściŭ u Polščy adviedvajučy Prezydenta Rečypaspalitaj, kiraŭnikoŭ polskaje armii j niekatorych polskich palitykaŭ hałoŭny kamandzier litoŭskaje armii hieneral Stasis Raštikis. Pryjezd hien. Raštikisa ŭ Varšavu vyklikaŭ vialikaje zacikaŭleńnie, jak z uvahi na niadaŭnija varožyja polska-litoŭskija adnosiny j sučasnaje niespakojnaje miżnarodnaje pałažeńnie, tak i dziela taho, što niekalki tydniaŭ tamu byŭ jon u Berlinie na 50-ch uhodkach naradzinaŭ Hitlera, katoryja ŭ Niamieččynie adznačalisia vielmi ŭračysta j na jakija zaprošanyja byli tolki pradstaŭniki niekatorych specyjalna vybranych haspadarstvaŭ. Ale hien. Raštikis ničyjej cikavaści nie zaspakoiŭ, bo jak u Varšavie, tak i paśla viarnuŭšysia ŭ Kaŭnas, zajaviŭ, što jahonaja pajezdka ŭ Pol.č nia mieła nijakich palityčnych metaŭ, a była vykarystańniem zaprosinaŭ marš. Rydz-Śmihłaha dziela asabistaha paznajamleńnia z kiraŭnikami Polskaha Haspadarstva j polskaje armii. Litva — kazaŭ hien. Raštikis — jość haspadarstvam neŭtralnym, a svaje niezaležnaści budzie baranić ad kožnaha, chto-b chacieŭ jaje złamać, — da astatku.

Treba adnak skazać, što praz tydzień paśla vyjezdu z Polščy hien. Raštikisa ŭ polska-litoŭskich adnosinach u Rečypaspalitaj nastupiła vyraznaja źmiena. Dasiulešni vilenski vajavoda L. Bacianski, jaki likvidavaŭ litoŭskija, a taksama j biełaruskija arhanizacyi, 19.V pieraniesieny ŭ Paznań, a na jaho miesca naznačany dasiulešni vajavoda paznanski Artur Maruševski. Zaraz-ža ŭ vilenski vajavodzki ŭrad byli zaprošany pradstaŭniki niekatorych źlikvidavanych litoŭskich arhanizacyjaŭ u Vilenščynie j paviadomleny ab tym, što ichniaja kulturna-aśvietnaje

---

сьлёзамі. Што раз болей усё іх прыбывае з высокіх нябесных прастораў. Зьнікнула даль паміж зямлёй і небам. Толькі раскінуўся вэлян пушысты з гэтых мяккіх далікатных іскрачкаў. Атуляюць яны сумнае аблічча шчыльней і шчыльней, прылягаюць густою заслонаю да пажарышча й калышуць трудавую ральлю да паўгодняга зімовага сну.

На белым вэляне гладзі прасторнае чарнее абоз дзікуноў.

Вечарам сустракаюць першую зорку, а раньніцай туманнае сонца песьнямі й гарачай малітвай.

Падулі цяплейшыя ветры. Схамянулася неба лазурнае, разьвеяла шэрыя хмары і ўлыбнулася соннай зямлі. Яркае сонца выплыла з-за дальняга стэпу й залатымі праменьнямі цалуе лядаватую гладзь. Белы пух плача на пажарышчы й сьцякае бруднымі сьлёзамі. Адкрываюцца леташнія раны чорнымі лішаямі.

Звонкая песьня жаўранка ляціць над неўзаранымі загонамі ў сіняве далёкіх прастораў. З пад чорнае груды прабіваецца зелень травы. Сьціхлі дзікія песьні й гульні. Татары на малых коніках стралою панясьліся ў новы край за здабычай.

Спалоханыя тубыльцы варочаюцца на родныя пароги. Адграбаюць попел і вуглі, адкідаюць асмаленыя цэглы і ўзносяць новыя зрубы харомін. Трудна йдзе праца, няма сілы й духу. Той страціў матку, брата ці жонку, другі ўсю сямейку. Зямля чакае сахі. Але толькі вузкія шнурочкі ўздымаюцца пад напорам зіржавелае паліцы. У глыбокія ўхабіны рэдка ляціць залатое зярнё.

Падаюць цёплыя майскія дажджы. Прасынаецца жыцьцяносная сіла ў мяккай скурцы й выпускае на сьвет кволы зялёнажоўты храсток. Цалуе яго сонца, калышуць ветры, купаюць кроплі дажджу, а раса поіць сілаю змагання за долю глыбокай раніцай.

Зеленеюць і неўзараныя гоні, там, дзе гулялі Татары. Са сьлядоў глыбокіх конскіх капытоў выглядаюць шырокія зялёныя лісточкі. Сьмяюцца яны прыветна сонцу й прыглядаюцца дзіўнай ваколіцы. Далёка сягае іх вока над неабнятай гладзьдзю.

Дзе-ж тыя ўзгоркі й даліны, аб якіх сьнілі яны ў тонкай лупіне? Што гадзіну расьце цікавасьць і падымаюцца тонкія ножкі ў гару.

Май мінуўся — адзін і другі. Ужо ня два лісты на кволай ножцы, але дзесяткі й соткі на гібкіх, моцных, чырванаватых галінах-дубцох. Бачаць саламяныя стрэхі, новую цэркаўку за плотам і мядзяныя званы, якія гудзяць вечарамі малітву Тварцу за радасьць жыцьця.

І хіляцца кволыя дубчыкі пад шум шалуньніка ветру. Заўтра цудоўнае сьвята вясны. Тонуць у зелені новыя хаты, пахне сьвежым сокам бярозы.

Радасна зьвіняць песьні дзяўчат на прасторы.

І расчыняюцца душы галінак. Лопаюць закіпеўшыя смалой пучкі, выхіляюцца пушыстыя бу-

T-va „Rytas“, a tak-ža j inšyja atrymajuć pravy dziejnaści j budzie im žvierniena ŭsia ichniaja majemaść, katoraj kiravali specyjalnyja ŭradavyja kuratary. U mižčasie Vil. Starastva dało dazvoł vydavać u Vilni časapis dla litoŭskaje moładzi p. n. „Jaunimo Kelias“, čaho dasiul praz niekalki hod Litoŭcy nijak nie mahli dabicca.

Nie ab hetym adnak dumajem tut pisać, a chočam źviarnuć uvahu na asobu hien. St. Raštikisa.

Hien. Raštikis — heta možna skazać pavadyr novaje maładoje Litvy. Radziŭsia jon 1.IX.1896 h. na Žmudzi ŭ m. Krušany. Vučyŭsia spačatku ŭ rodnym miastečku, paśla ŭ himnazii ŭ Marjampoli, dzie byŭ prad vajnoj žyvy litoŭska-adradženski asiarodak, a ŭ 1917 h. končyŭ u Tyflisie vajennuju školu, ad jakoje j pačaŭ svaju vajskovuju słužbu. U baraćbie za niezaležnaść Litvy, ustupiŭšy jak achvotnik u litoŭskuju armiju, byŭ u 1919 h. ranieny j uziaty balšavikami ŭ pałon. Paśla vajny skončyŭ prava na Universytecie Vitaŭta Vialikaha ŭ Kaŭnasie j vyšejšuju vajskovuju školu ŭ Berlinie. U 1934 h. byŭ naznačany, majučy tady ranhu pałkoŭnika, na načalnika hałoŭnaha štabu, a niezadoŭha paśla atrymaŭ ranhu hienerała j naznačeńnie na hałoŭnaha kamandziera litoŭskaje armii, katoruju staranna razbudoŭvaje. Hien. Raštikis adznačajecca vialikimi zdolnaściami j hłybokim patryjatyzmam da svaje Baćkaŭščyny, kirujučysia jakim kinuŭ jon sioleta, u čas, kali Niemcy zabirali ad Litvy Kłajpedu, słovy, katoryja nie adzin narod litoŭski moža pisać sabie na



Hien. St. Raštikis

ściahoch. Hien. Raštikis skazaŭ: „Abarona niezaležnaha bytu jość najhałaŭniejšym zadańniem. Lepš zhinuć z honaram u baraćbie, čym sia paddacca. Bo kroŭ pralitaja ŭ takoj baraćbie budzie zdarovym zasievam, z jakoha vyrastuć novyja dokazy dla baraćby za volnaść i niezaležnaść... Pamiatujma, što chto nie baronić volnaści, toj nie zasłuhoŭvaje na jaje...“ *jn.*

## ПАГОДНАЯ НОЧ

*Прышла ты, ноч пагодная,*
*Ды жаль, што не ў пару,*
*Бо ўжо пара галодная*
*Заглянула ў аруд.*

*На зоркі твае ўгледжуся,—*
*На захадзе сьвятло,*
*Запомніць ўсё памечуся,*
*Што летась працякло.*

*А ўсё-ж прыпамінаецца,*
*Што гэта ўсё-ж „вясна“:*
*Зямля з сьнягоў страсаецца,*
*Са сьцюжы і цямна.*

*І ўсюды мне напісана*
*Тых страшных слоў радкі...*
*Жыцьця дарожка выслана*
*Ня ў краскі — нагаткі...*

*А ў тое нешта сумнае,*
*Што клічаць—„недахоп.“*
*І знаю усе гумны я...*
*Дзе хто патруху згроб.*

*Цяпер патрэбен пошар мне,*
*За тыдзень — хлеб, мука,*
*А там, раней, —за месяц*
*Падаткі з мужыка!*

*Пяяўбы гэтай ночаццы,*
*Ах, якбы я пяяў! —*
*Ну, калі плакаць хочацца...*
*Так шмат тут сумных зьяў.*

*Ганна Новік*

тоны розавых лепясткоў, калыхаюць кучаравымі галоўкамі пад шум ветру, гуд званоў і лёгкакрылую песьню дзяўчат.

Дуняша хіліцца пад лёгкім зэфірам, качае яснымі кучарамі ў блеску чырвонага сонца, гібкі стан нахіляе над дзірваном, залівaецца тонамі песьні, а глыбіню сініх вачэй шле ў бязьмежную даль.

Вось! Цьвітуць зялёныя карчы! Белая, шаўковая рука сягае па аксамітныя бутоны румяных лепясткоў. Вонны запах калышыцца навокал і ап'яняе дзяўчыну.

— Занясу перад ікону Марыі ў нашай цэркаўцы, прыбяру галоўку змучанага Хрыста, хай сьвежасьць красы абнізіць яго мукі, хай пакойніцы мамачцы будзе лепш у гэным сьвеце, хай дарue за нашую сьмерць пад татарскім нажом.

Дрыжаць перад Марыяй васковыя сьвечкі, ірдзіцца розавы вянок, плыве малітва да Усевышняга за непапоўненыя грахі.

А на небе клубяцца хмары, вострыя нажы разсякаюць маланкаю цемень шэрай вады.

Паснулі людзі ў душным паветры. За мутнымі вокнамі бурліць дождж, дрыжаць шыбы ад грымотаў.

Блісну ў нож, затрасьліся сьцены й заліліся яркасьцю маланкі.

Што гэта? Пажар? Зноў Татары?

Узарваўся старац з пасьцелі, аблуканыя выблякшыя вочы затрымаліся нема на куце з абразамі, сівыя валасы й барада прыліплі да касьцістых грудзей і блішчатага крыжа. Узьнесеныя да чала рукі ападаюць і бязсільнае мёртвае цела апускаецца на новыя дошкі сасновае падлогі.

Дыміць, дагарае цэрква. Людзі моляцца над трупам бацюшкі.

Загрымеў малаток па гваздох і дрыўлянае века апускаецца ў сьвежы жвір.

Сінь вачэй блукае па дрэвах, па небе пагодным, а тоўстыя шнуры ўпіваюцца ў гібкі стан Дуняшы й цісньуць яе далікатныя рукі. Вецер гуляе з яснымі кучарамі.

Узносіцца касьцёр сухога гальля. Нэрвовыя рукі ўзбунтаванай грамады дапаўняюць вялікую купу, злыя вочы прабіваюць прывязаную бязсільную Дуняшу, а вусны шэпчуць:

— Гэта яна татарскім зельлем прыбрала галаву Марыі і прывяла нячыстую сілу ў Сьвятыню.

Бухнуў вагонь з сухога гальля, чырвонымі языкамі ліжа ценькія галінкі. Зьвязанае цела абамлеўшае Дуняшы захісталася ў шэрым дыме. Іскры слупом узьняліся ўвысь. Аблуканыя блакітныя вочы зьліліся з блакітам яснага, вясёлага неба.

А на попеле гібкай Дуняшы ўжо не адзін май; калышацца бутоны аксамітных розавых азалій і сьняць яны аб горах і далінах Каўказу.

*Раса*